Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

# Сялянская Праўда

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 3. Вільня, Нядзеля, 5-га кастрычніка 1924 г. Год I.

**СЯЛЯНЕ!** Памятайце, што „Сялянская Праўда“—гэта **вашая газэта**, дык вы самі павінны яе і ўтрымаць. Дзеля гэтага **акуратна шліце падпісныя грошы** і намаўляйце да гэтага другіх!

Хто ў цяжкую пару задоўжыўся, хай, сабраўшы з поля, **адашлець свой доўг!**

Падпішчыкам, якія заплоцяць зразу грошы **за тры месяцы** (да канца году), будзе **бясплатн**а разасланы зборнік

***„Заходняя Беларусь“.***

## Прынцыповае пытаньне.

Сэсія Лігі Народаў фактычна ўжо закончана. Не ўваходзячы ў агульную ацэнку працы Лігі ў кірунку забясьпечаньня міру, мы затрымаемся толькі на адным мамэнце, каторы, як ня трэба лепш, выявіў вартасьць усіх гутарак аб разбраеньні, забясьпечаньні ад нападаў, арбітражу і іншых пекных рэчах.

Хіба для кожнага ясна, што народы Эўропы і пасьля сусьветнае вайны не перасталі дзяліцца на дзьве групы: на народы пануючыя і паняволеныя, на крыўдзіцеляў і пакрыўджаных. І пакуль гэты падзел будзе трываць, пакуль у паняволеных ці пакрыўджаных народаў будзе кіпець у грудзёх непераможнае імкненьне да вызваленьня, да направы ўсіх сваіх крыўдаў, — датуль і мір ня будзе мець пад сабой трывалае падставы.

„Дробны“ прыклад: справа Заходняе Беларусі. Ад вякоў за панаваньне над нашай Бацькаўшчынай ішло крывавае змаганьне між Масквой і Варшавай. Урэшце змаганьне гэтае як-быццам закончылася міравым трактатам у Рызе, які падзяліў Беларусь між Усходам і Захадам. Але ці-ж той мір, які Радавая Расея і Польшча ўгрунтавалі на падзеле жывога народу—моцны і трывалы? Ці-ж мала было мамэнтаў, калі гэны мір, здавалася, усім сваім цяжарам дзяржаўся на цененькім валаску?

Зусім-добра разумеючы гэта, хоць і маючы на ўвазе толькі сваю карысьць, прадстаўнік Літвы ў Лізе Народаў, Гальванаўскас, падаў у юрыдычнай камісіі прапазіцыю, каб арбітраж (палюбоўны суд) разглядаў справу слушнасьці трактатаў у-ва ўсіх тых прыпадках, калі між дзьвюма дзяржавамі узьнімаецца спрэчка аб тэрыторыю, *захопленую аднэй з іх гвалтам.*

Гальванаўскас меў на думцы правясьці гэтую агаворку ў пратаколе Лігі Народаў дзеля таго, каб прыгатаваць праўны грунт дзеля літоўскага дамаганьня арбітражу міжы Літвой і Польшчай у справе Віленшчыны, забранай ген. Жэлігоўскім аружнаю сілаю. Але сам ён пэўне ня думаў, якое вялікае агульнае значэньне мела яго прапазіцыя!

Затое старшыня юрыдычнае камісіі і ўся гэная камісія дужа добра ацанілі вагу прапазіцыі Гальванаўскаса і... адмовіліся гутарыць аб ёй. Гэтым Ліга Народаў ясна сказала, што яна *прызнае ўсе зробленыя дагэтуль дзяржавамі—сябрамі Лігі — тэрыторыяльныя захваты*, што *жаданьне паняволеных народаў скінуць з сябе чужацкае ярмо яна будзе лічыць „незаконным“*....

І якім крывадушным пасьля гэтага зьяўляецца выступленьне Лігі Народаў у справе Грузіі, якая змагаецца за сваю незалежнасьць з дзяржавай, што *не належыць* да Лігі!...

У аднэй толькі справе большасьць сяброў Лігі гатова нарушыць міравыя трактаты: гэта—ў справе аддадзеных Польшчы нямецкіх зямель (гданскі „калідор“ і Горны Сьлёнск). У гэтай справе Англія выступае выразна проці Польшчы і на карысьць Нямеччыны, манючыся гэтымі ўступкамі заахвоціць Нямеччыну да ўваходу ў склад Лігі....

Гэтай дарогай Англія маніцца вярнуць даваенную палітычную раўнавагу ў Эўропе. Але яна забывае, што дзеля гэтага трэба йшчэ ўвясьці ў Лігу Народаў і ССРР. А тады йзноў узьнімецца рад спорных пытаньняў аб тэрыторыях, якія ўваходзяць цяпер у склад Польшчы.

Дык ці-ж не практычней было прыняць зразу літоўскую агаворку?

## Становішча Нямеччыны.

У сваіх варунках уваходу ў склад Лігі Народаў Нямеччына дамагаецца сталага мейсца ў Радзе Лігі, як належыцца вялікай дзяржаве, зьняцьця з яе выключнай адказнасьці за выбух вайны і таго, каб **у прыпадку выбуху вайны паміж Польшчай і Расеяй Францыя ня мела права пасылаць войска на помач Польшчы праз нямецкую тэрыторыю.**

Нямеччына адзначае, што ў выпадку вайны расейскія войскі апынуцца над яе ўсходнімі граніцамі раней, чым францускія, дык тэатрам ваенных апэрацыяў няўхільна станецца нямецкая тэрыторыя.

Нямеччына таксама гатова падпісаць трактат аб граніцах, але рашуча **адмовілася гарантаваць нятыкальнасьць польскіх граніцаў.**

## Сьлядамі Польшчы.

Польшча, заўладаўшы Заходняй Беларусьсю, адразу—адным ударам — **пазбавіла** беларускае насяленьне яе (так сама, як жыдоўскае і літоўскае) ўсіх **нацыянальных праваў.**

Літва, пакуль улада ў ёй была ў руках болей-меней левых партыяў, наадварот, **прызнала ўсе нацыянальныя правы меншасьцяў**, дзеля забясьпечаньня якіх устанавіла нацыянальныя міністэрствы—беларускае і жыдоўскае (палякі, спадзяючыся на хуткі прыход чыста польскае ўлады, ад польскага міністэрства адмовіліся).

Аднак, калі ўладу ўзялі ў свае рукі рэакцыйна настроеныя ксяндзы (партыя „хрысьціянскіх дэмакратаў“), дык зразу павярнулі палітычны курс у адносінах да меншасьцяў, зусім насьлядуючы сваіх аднапартыйнікаў („хадэкаў“) у Польшчы. Міністэрствы беларускіх і жыдоўскіх спраў былі скасаваны. Жыдоўская нацыянальная рада, памыкаўшаяся адбыць канфэрэнцыю, разагнана.

Зусім зразумелая рэч, што пасьля гэтага і адносіны меншасьцяў да Літоўскае дзяржавы, даўней шчыра прыхільныя да яе, рэзка зьмяніліся. Адбілася гэта і на беларусах, і на жыдох. Блізу ўсе актыўныя беларускія дзеячы, быўшыя ў Коўні, пакінулі сталіцу Літвы: адны выехалі ў Прагу, другія—патайна прайшоўшы праз усю Заходнюю Беларусь і двойчы пераступіўшы граніцы Польшчы, — перабраліся ў Менск. Адначасна ў жыдоўскай прэсе пачаліся вострыя выступленьні проці літоўскага нацыяналізму, якія адгукнуліся і ў Лізе Народаў, шмат зьменшыўшы даўнейшую прыхільнасьць яе да Літвы.

Але на гэтым не канец. Пакуль меншасьцям было добра ў Літве, яны жылі кожная сваім асобным жыцьцём, адна аднэй мала цікавячыся. Калі-ж пачаўся „новы курс“, дык супольная бяда прымусіла іх зблізіцца і супольнымі сіламі даць адпор ліпшэ ўжо далёка загнаўшымся так-званым „хрышчоным дэмакратам“.

Надыйшоў важны мамэнт: выбары ў самаўрады Літвы. І вось меншасьці Літвы зрабілі тое самае, што яны зрабілі ў Польшчы, каб ня дацца пакрыўдзіць іх выбарным законам: пайшлі салідарнай, цеснай грамадой. І, як у свой час у Польшчы, вынікі выбараў аказаліся ашаламляючымі: **нацыянальныя меншасьці здабылі 40 процантаў усяе лічбы мандатаў!**

Як бачым, і Літва, падобна Польшчы, стаецца арэнай нацыянальнае барацьбы. Але палажэньне Літвы шмат горшае з гэтага пагляду, чым палажэньне Польшчы.

Польшча, пазбавіўшы, да прыкладу, беларусаў усіх нацыянальных правоў, зьнішчыўшы ўсю беларускую школьную сетку (каля 400 школ), выгнаўшы зусюль беларускую мову,—цяпер, пасьля такое колькігадовае гаспадаркі, пачынае рабіць нейкія дробныя ўступкі (і то ўсё яшчэ толькі на паперы!), замест зьнішчаных беларускіх школ суліць нейкія двуязычныя—польска беларускія, ды пры гэтым прад усім сьветам пахваляецца, што яна ўсё-ж такі **нешта дае** беларусам. І самы факт „даваньня“ (якое-б яно на дзеле ні было...) робіць заграніцай уражаньне, быццам у Польшчы справа „меншасьцяў“ разьвязываецца правільна.

Літва, хоць і дала перш многа, цяпер толькі ўрэзывае правы сваіх нацыянальных меншасьцяў, **толькі адбірае.** І хоць-бы тое, што яна адбірае, было нейкай драбніцай (на дзеле гэта ня так!), самы факт адбіраньня выстаўляе Літву ў дужа благім сьвятле перад усім сьветам.

Гэтым **адваротным кірункам** толькі і розьніцца сучасная нацыянальная палітыка Літвы ад палітыкі Польшчы. Але ў істоце між імі розьніцы, бадай, няма,—калі не сказаць аб тым, што ў Літве апазіцыя проці нацыяналізму пануючае партыі, як гэта выявілася на выбарах у самаўрады, шмат вялікшая, чым у Польшчы, дзе нацыяналізмам заражаны блізу ўсе палітычныя партыі—ад правіцы да сацыялістычнае лявіцы!

Ів. **Мялешка.**

## Першыя угодкі генаральскага ураду у Гішпаніі.

У сярэдзіне верасьня мінуў год, як у Гішпаніі—шляхам ваеннага перавароту—да ўлады дайшла гэтак званая „дырэкторыя“ з генаралам Прыма дэ-Рывэра на чале, а справядлівей — запанавала зусім шалёная дыктатура гэтага бяздарнага генерала. І якраз у гадавіны гэтага панаваньня дэ-Рывэры—у дні найвялікшага паражэньня і ганьбы гішпанскіх войск у Марокко, куды іх „сам генарал“ павёў на пабеду, здарыліся характэрныя выпадкі. Край ужо ня здолеў больш цярпець генаральскага гаспадараньня, і пад націскам публічнай апініі кароль запрасіў да сябе... другога генарала, Вэйлера, на нараду, што рабіць? А той парадзіў каралю перадусім паразумецца з тымі правадырамі палітычных партыяў, якіх дэ-Рывэра амаль ня ўсіх пасадзіў у вастрогі.

Уся Гішпанія памятае, якія абяцаньні даваў генарал—галава гішпанскіх фашыстаў, разганяючы гішпанскі парлямант і захопліваючы ўладу. Акурат, як у нас 8-ка на выбарах, ці хіена-пяст у пачатку яго панаваньня і рабаваньня!.. Дэ-Рывэра абяцаў задушыць камунізм, павясьці рад гуманітарных рэформ, забясьпечыць дабрабыт і правы работнікаў „лепей, як сацыялісты“, разьвіць самаўрады, кансалідаваць дзяржаву, крэпка прывязаўшы да яе „паўдзённыя крэсы“ Гішпаніі—яе афрыканскія калёніі.

І вось, добра ведама, як генарал зрэалізаваў гэтыя абяцаньні! Парлямант—разагнаны зусім, ды нават старшыні абедзьвюх законадаўчых палат пазбаўлены дэкрэтам генарала сваей годнасьці, атрыманай шляхам выбараў,—за тое, што яны зьвярнуліся да караля з напамінаньнем аб істнуючай канстытуцыі. Усе канстытуцыйныя міністры разагнаны, самаўрады распушчаны,

прэса аддана пад салдацкую цэнзуру; забаронены ўсялякія сабраньні і саюзы... Дый усе добра ведаюць, што даў генаральскі ўрад замест кансалідацыі дзяржавы: усе афрыканскія „крэсы“ — ня толькі ў полымі паўстаньня, але ўжо павінны лічыцца страчанымі для Гішпаніі назаўсёды.

Калі да гэтага ўсяго дадаць тыя сотні мільёнаў пэзэт, што каштавала афрыканская „ўланада“, ды да гэтага палічыць і ўсе тыя страты ў людзёх, што праглынула вайна,—дык тады абраз генаральскага ўрадаваньня ў Гішпаніі—ў краі і на „Крэсах“—будзе адмаляваны да канца.

Кажуць людзі, што разумны вучыцца з прыкладу дурных. А можна дадаць, што зусім ужо безнадзейны той, хто не разумнее ад уласных абмылак.

Каб жа-ж гэты прыклад дурнога зрабіў уплыў ня толькі на гішпанскіх „разумных“! **С.**

# Аб чым пішуць.

### Усё аб тым-жа!

Есьць такая расейская прыказка: „Гром не грянет, мужик не перекрестится“.

Такім вось „громам“ для Польшчы зьявіліся напады партызанаў,—перадусім напад на цягнік пад Лунінцом.

Вось і пачаліся бясконцыя гутаркі ў прэсе аб тым, як ратавацца ад грозных вынікаў польскае ўнутранае палітыкі?

Права-цэнтравая прэса мае толькі адну раду: тэрор! Як-быццам яго дагэтуль ня было, і як-быццам ня гэтая палітыка ўціску давяла да партызанцкага руху....

Урад як-быццам адкідае гэты спосаб і... маніцца ўсё вясьці па старому!

Толькі польская лявіца, якая ў тэорыі—на словах—стаяла на становішчы аўтанамічнае разьвязкі „крэсавага“ пытаньня, пачынае разумець, што аднымі гутаркамі тут не паможаш і трэба ўрэшце падыйсьці да зьдзейсьненьня праграмы польскіх сацыялістаў.

Як паведамляе „Robotnik“,

> Надзорчая Рада П. П. С. прыняла рэзалюцыю, ў якой дамагаецца наданьня Усходнім Крэсам тэрыторыяльнае аўтаноміі і даручае свайму пасольскаму клюбу, як мага хутчэй, падаць у Сойм адносныя праекты.

А вось што ў гэтай-жа газэце піша п. Т. Головко. Заклікаючы беларусаў і украінцаў да прымірэньня з польскай дзяржаўнасьцяй, ён кажа, што ўрад павінен ня толькі зрачыся ўсялякае думкі аб рэпрэсіях, але і

> таксама пашукаць угоды з украінскім і беларускім грамадзянствам.

І далей дае гэткі праект:

> Мы перакананы, што назначэньне раду украінскіх і беларускіх дзеячоў тымчасам хоць-бы на заступнікаў ваяводаў і старостаў, на рэфэрэнтаў да школьных спраў, службы здароўя, зямляробства і г. д., ўцягіваньне мясцовых украінскіх і беларускіх дзеячоў да працы ў самаўрадах—вельмі шыбка дапаможа ўспакаенью „Крэсаў“.

„Gaz. Warsz.“ пацяшае сваіх чытачоў, што сярод сучасных кіраўнікоў польскага ўраду гэты праект ня знойдзе прыхільнікаў.

Мы з свайго боку дадамо, што назначаньне беларусаў на розных „*заступнікаў*“ (як некалі прапанаваў беларусам у Меншчыне п. Пілсудскі) нікога з беларусаў не здаволіць. Дый ніхто з паважаючых сябе беларускіх дзеячоў (ведама, апрача банды з „грамадзянскае шулерні“!) ня пойдзе на памоцнікаў да ваяводаў і старостаў, якія тым і ўславіліся сярод нашага народу, што з ім усьцяж змагаліся і перасьледавалі яго!

Запраўды, дзіўная выдумка: каб ваяводы і старосты і далей перасьледавалі беларусаў, а беларускія дзеячы „расьпісываліся“ за іх!



# Справа забойства мітрапаліта Юрыя.

25—27 ў Варшаўскім акружным судзе разьбіралася справа б. архімандрыта Смарагда (Латышэнкі), абвінавачанага ў забойстве Варшаўскага мітрапаліта Юрыя.

Гэтая справа ўжо раз разьбіралася ў даразным судзе. Абвінавачанаму тады пагражала кара сьмерці, і толькі супольным высілкам абароны — ў асобах адв. Врублеўскага (Вільня), Глушкевіча і Ганкевіча (Львоў) — удалося справу з вынятковага суду перанесьці ў звычайны.

Пасьля гэтага справа назначалася яшчэ два разы, але ўсё адкладалася: першы раз — па трэбаваньню абароны — дзеля нягоднасьці экспэртызы, другі раз — дзеля адсутнасьці важнейшых сьведкаў абедзьвюх старон. Праз увесь час—амаль ня цэлы год — Латышэнка знаходзіўся ў бальніцы пад наглядам спэцыялістаў-псыхіатраў.

Справа разглядалася пад старшынствам п. Казакоўскага. Прадстаўніком дзяржаўнага абвіненьня быў сам пракурор Варшаўск. акр. суду, п. Рудніцкі. З прычыны раптоўнай адмовы львоўскіх адвакатаў, якія зажадалі вялікіх ганарараў, абарону прадстаўляў вядомы адвакат Врублеўскі, якому ўдалося знайсьці памоцніка ў асобе адв. Бабянскага. Абвініцельны акт закідае падсуднаму Латышэнку забойства высокага ўрадоўца (?) — з наперад абдуманым намерам і плянам.

---

Латышэнка на судзе заявіў, што прызнае факт забойства, што ён забіў мітрап. Юрыя зусім сьвядома — за тое, што нябожчык, самазванна прысвоіўшы сабе ўладу над усей Праваслаўнай Царквой у Польшчы, прадаў яе польскаму ўраду, што ён рабіў фальшы ў афіцыяльных дакумантах, ламаў каноны, зьніштожыў грамадзкі ці народны элемэнт у царкоўным упраўленьні, — разагнаў эпархіяльныя сабраньні і рады, павыганяў законных і добрых япіскапаў, а на месца іх сам незаконна нарабіў новых, пакорных у-ва ўсім ураду— што ён зруйнаваў ці сфальшаваў усё ўнутранае жыцьцё Праваслаўнай Царквы ў Польшчы, — ды ўрэшце за тое, што мітр. Юры благі чалавек...

---

З усяе цаўсотні пакліканых сьведкаў не зьявілася 11, у тым — тры япіскапы — Уладзімер, Аляксандр і Аляксей, — вельмі важныя сьведкі для адмаляваньня ўсяго абраза палажэньня праваслаўнай Царквы ў Польшчы.

У ліку прысутных сьведкаў — і нашыя старыя знаёмыя па Беластоцкаму працэсу 45 беларусаў: Эдвард Ленкевіч — спэцыяліст па беларускай паўстанчай арганізацыі ў Горадзеншчыне, якую ён у значнай меры сам арганізаваў, каб пасьля выдаць уладзе, ды якую дзіўным чынам акт абвінавачаньня выстаўляе ў сувязь з забойствам мітрапаліта Латышэнкам; і — „спэцыяліст па япіскапу Уладзімеру“ — агент тайнай паліцыі Тустаноўскі, які і тады ўжо меў заданьнем даказаць шкодную палітычную дзеяльнасьць япіск. Уладзімера, яго сувязь з беларускімі паўстанцамі, з Ластоўскім, з Літоўскім урадам і т. п. (хаця ў справе Латышэнкі яп. Уладзімер выступае толькі як сьведка, але зусім не як абвінавачаны...).

---

Сьведкі абвіненьня адмалявалі абставіны забойства, далі вельмі дадатную характэрыстыку забітага мітрапаліта і — вельмі цёмную — забойцы Смарагда. Згодна з актам абвінавачаньня, яны казалі, што забойства мела матывам асабістую помсту архім. Смарагда за тое, што мітр. Юры пазбавіў яго парахвіі і нават забараніў яму багаслужэньне.

Сьведкі абароны, а перадусім сэнатар Багдановіч і пасол Серэбрэнікоў, намалявалі шырокі абраз усім ведамых перасьледаваньняў і ўціску праваслаўнай царквы ў Польшчы, у якіх польскі ўрад карыстаўся ўслугамі мітрапаліта.

Рад сьведкаў давёў, што адносіны паміж Юрыем і Смарагдам папсаваліся дзеля гэтай шкоднай для праваслаўнай царквы „палітыкі“ мітрапаліта, і што забойства зьявілася выражэньнем безнадзейнага расчараваньня ў магчымасьці мірных спосабаў барацьбы і абароны правоў і інтарэсаў царквы.

На гарачую, псыхапатычна-неўраўнаважаную душу Смарагда гэтая абапертая на сілу польскай улады дзейнасьць мітрапаліта рабіла хваравліва-абураючае уражэньне і ўрэшце выклікала страшэнны акт самасуду...

„Вось табе, кат царквы праваслаўнай“—гэткія былі апошнія словы Смарагда ў апошняй доўгай размове з мітрапалітам, які на ўсе закіды Смарагда і мальбу зьмяніць сваю „палітыку“ адказаў, што „кожны свайго шчасьця каваль“.

Адзін з сьведкаў падаў характарныя словы мітрапаліта аб тым, што „ўпраўляць праваслаўнай царквой у Польшчы можна толькі тэрорам“.

Экспэрты прызналі, што Латышэнка мае ўспадкаваны псыхапатычны нахіл, але захаваў цалком інтэлект (розум), мае толькі павялічаную ўражлівасьць і імпульсыўнасьць (пабудлівасьць). Дзеля таго экспэрты сцьвярдзілі, што ён, забіваючы, добра памятаў усё, што рабіў, але толькі ня меў сілы волі стрымацца, калі яго захапіла абурэньне; пры гэткай паталягічнай „нясталай душэўнай раўнавазе“ вельмі гвалтоўную рэакцыю магло выклікаць нават зусім нязначнае зьявішча. Гэткім чынам экспэрты сцьвярдзілі „абмяжованую магчымасьць кіраваньня сваімі паступкамі і адказнасьць“ у падсуднага.

---

У прамове сваей пракурор цалком падтрымліваў закіды абвініцельнага акту.

Абодва абаронцы, а перадусім адв. Врублеўскі, у ўсеаружжы знаньня кананічнага права праваслаўнай царквы, гістарычных і сучасных адносінаў у нашым краі, на фоне якіх ён разглядаў усю гэтую справу (бо былі-ж у Вільні забойствы і ксяндзоў здраднікаў каталіцкай царквы ў царскай Расеі!),—разглядзелі ўсю справу і абвіненьне з пункту гледжаньня грамадзка-палітычнага (Бабянскі) і з пункту гледжаньня чыста юрыдычнага: польскай канстытуцыі, Кодэксу Карнага і Канонаў праваслаўнай царквы (Врублеўскі).

Абарона даказывала адсутнасьць матыву асабістай помсты ў абвінавачанага і зьбівала фармуляваньне абвіненьня па 455 арт., п. 3 (забойства ўрадоўца), даводзячы, што служыцель Бога ня можа лічыцца падуладным сьвецкай уладзе ўрадоўцам.

Прыгаварам суда б. архім. Смарагд (—Павал Латышэнка) засуджаны па арт. 455, п. 3 на 12 гадоў катаржнай турмы.

Абарона падае апэляцыйную скаргу.

# Палітычны агляд.

## У Польшчы.

### Яшчэ аб „рэканструкцыі габінэту“.

Польскія газэты падаюць, што на канфэрэнцыях з прэм'ерам Грабскім рад клюбаў высунуў патрэбу „рэканструкцыі“ габінэту, дзеля „ўзмацаваньня ўраду“. Некаторыя клюбы жадалі зьмены на становішчах міністраў унутр. спраў (— за палескія напады!), асьветы і справядлівасьці.

Прэм. Грабскі быццам адказаў, што ён асабіста вельмі здаволены гэтымі міністрамі, але, калі Сойм афіцыяльна выразіць ім сваё недаверые, дык тады яны самі зробяць з гэтага патрэбныя вывады...

### Узнаўленьне працы Сойму.

Па прапазыцыі маршалка Сойму клюбы згадзіліся распачаць працу Сойму 20 кастрычніка. Прадметам заняткаў будзе бюджэт на 1925 год.

### Віцэ-міністар да спраў „Крэсаў“.

„Kur. Polski“ наказуе, што ў зьвязку з нападам на „Крэсах“ ізноў станула на чаргу справа стварэньня асобнага самастойнага „падсэкратара для крэсавых спраў“.

Гэтымі днямі прэм. Грабскі будзе радзіцца ў гэтай справе з правадырамі соймавых клюбаў.

### Новыя крэдыты на абарону „Усходніх Крэсаў“.

Ужо на гэты месяц кастрычнік асыгнаваны павялічаныя крэдыты на абарону Ўсходніх „Крэсаў“.

У бюджэт 1925 г. на гэта ўстаноўлены вельмі вялікія сумы. І вось — гэтыя „крэсы“ будуць каштаваць Польшчы вялікіх грошаў, але гэтыя вялікія сумы, якія будуць пераважна спаганяцца з насяленьня тых-жа „крэсаў“, будуць ісьці не на паляпшэньне варункаў жыцьця і працы насяленьня, а толькі „на абарону“ таго, чаго пры іншых варунках, пры іншай палітыцы зусім ня трэба было-б бараніць...

Дык — ці-ж ня ясна, што гэтыя вялікія сумы з пункту гледжаньня агульна-дзяржаўнай эканоміі — папросту выкідаюцца дарэмна? Бо — калі тое бясспрэчнае дабро, якое дзяржава бярэ з насяленьня краю, яна вяртае яму ў відзе вельмі сумліўнага, зусім непатрэбнага яму і не паляпшаючага яго быт і працу,— непрадуктыўнага „дабра“ — паліцыі, войска і ваеннага матар'ялу, — дык ясна, што такая гаспадарка перадусім неэканомна, а ў канцы канцоў — руйнуе фінансава-эканамічна і „крэсы“, і іх „прыроджанага гаспадара“.

А ўсё, што не эканамічна, як мы ведаем, у нашыя часы надоўга ўтрымацца ў жыцьці ня можа...

Бо чы-ж дапраўды якая дзяржава толькі дзеля „гістарычнага гонару“ захоча і здалее ўтрымаць тыя „крэсы“, якія даюць ёй выключна выдаткі і клопаты— абароны?! — пры гэтым абароны, якой сумліўнасьць расьце з кожным тыднем...

### Прысуд у справе львоўскіх камуністаў.

Па прыгавору львоўскага суда ў справе камуністычнай арганізацыі моладзі 3 засуджаны на 4 гады катаржнай турмы, 3—на 3 гады, 3—на 2 гады, 1 — на 1 год.

### Убыткі ад разьбітых бранявікоў.

Аблічана, што польскі скарб страціў на 2 разьбітых бранявых цягніках 200.000 злотых.

Рэшткі цягнікоў прывезены ў чыгунковыя майстроўні для рапарацыі.

## Заграніцай.

### Скарга галіцыйскіх украінцаў да Лігі Народаў.

„Камітэт Трох“, праз які йдуць у Раду Лігі ўсе скаргі меншасьцяў, разглядаў скаргу, паданую на польскі ўрад украінскім камітэтам Усх. Галічыны ў сакавіку г. г.

Скарга гэта закідае польскаму ўраду пагвалчаньне Трактату аб меншасьцях — праз уціск украінскай школы, перасьледаваньне прэсы, саюзаў, сабраньняў, праз асадніцкую калянізацыю, забарону павароту эмігрантаў з Аўстрыі, Чэхаславакіі, звальняньне ўрадоўцаў—украінцаў і г. д.

За апошнія дні ў Лігу прыйшло каля 400 паасобных скаргаў, якія падцьвердзілі тое, што пісалася ў заяве Камітэту.

Польская дэлегацыя дала ў „Камітэце Трох“ абшырныя тлумачэньні, у якіх „сцьвердзіла беспадставнасьць“ гэтых скаргаў і закідаў і нарысавала ўсе дабрадзействы „сучаснай **новай** палітыкі ўраду адносна да меншасьцяў“...

„Камітэт Трох“, пазнаёміўшыся з гэтымі ўсімі матар'яламі і „лібэральнымі пачынаньнямі польскага ўраду“, пастанавіў не даваць далейшага ходу украінскай скарзе. („ПАТ“).

## Манёўры радавага флёту.

На эстонскім „адрэзку“ Балтыцкага мора адбываюцца вялікія манёўры флёту СССР.

## Ліга Народаў.

Пратакол у справе арбітражу і бясьпечнасьці прыняты 47 дэлегатамі аднагалосна.

Як „лёгка ўсё прымаецца і гарантуецца“ ў адсутнасьці 3 вялізарных дзяржаваў сьвету!..

## Кангрэс Амстэрдамскага Інтэрнацыяналу.

У Амстэрдаме (Галяндыя) распачаў сваю працу так-званы Другі Інтэрнацыянал (сацыялістычны, супраціўнік Трэцяга — Камуністычнага — Маскоўскага Інтэрнацыяналу).

## Пагроза ўрадавага крызісу ў Англіі.

На паседжаньні клюбу лібэралаў прынята аканчальна пастанова — адмовіць у ратыфікаваньні (зацьверджаньні) англійска-радавай умовы.

Як ведама, урад Мак-Дональда заявіў, што прыняцьце парляментам гэтай умовы — пытаньне даверыя да яго ўраду.

З гэтага відаць, што пастанова лібэралаў няўхільна выкліча крызіс габінэту.

## Рэканструкцыя нямецкага ўраду.

Як ведама, нямецкі ўрад Маркса абяцаў нацыяналістам і нямецкім людоўцам некалькі міністэрскіх партфэляў у ўрадзе за прыняцьце „пляну Доўса“. Цяпер „людоўцы-нацыяналісты“ падалі канцлеру Марксу рахунак да аплаты і выбралі 4 дэлегатаў, каб весьці аб гэтым перагаворы з урадам. Аканчальная пастанова будзе прынята на распачатым Кангрэсе партыі.

## Абастрэньне палажэньня ў Баўгарыі.

Рэвалюцыйны Камітэт пачаў арганізацыю ваенных атрадаў. Вярбуюцца ахвотнікі. Урад аб'явіў ваенны стан у Софіі (сталіцы).

(Вестка ідзе праз Белград, дык можа быць вельмі „павялічана“. — *Рэд.*).

## Адстаўка грэцкага ўраду.

Грэцкі габінэт падаўся у адстаўку.

## Выбары да „Сэнату“ ў Швэцыі.

Выбары ў вышэйшую заканадаўчую палату (Сэнат) у Швэцыі далі пакуль што гэткія рэзультаты: кансэрватары атрымалі 43 мандаты (было і дагэтуль 43), сялянскі саюз—13 (было 11), лібэралы—4 (было 6), вольнадумцы і народнікі—16 (было 15), сацыял-дэмакраты 75 (было 74). Няма вестак яшчэ з 11 акругоў.

Слабая, але ўсё-ж такі і тут ёсьць „эвалюцыя“ ў бок работніцка-сялянскіх партыяў.

## Новае наступленьне гішпанцаў на Марокко.

Гішпанскія войскі пачалі новае наступленьне ў Марокко, якое пакуль што ідзе для іх памысна. Амаль бяз усякіх стратаў людзьмі, заняты ізноў Шэшуан, пасьля крывавага бою заняты Ляраш. Трэба толькі дадаць, што гэтыя весткі падае афіцыяльны камунікат гішпанскага ўраду.

## Паніка ў Мэццы.

Сьвятое для магамэтан места Мэкка — у паніцы: армія паўстанцаў падыйшла да самага места. Багамольцы ўцякаюць з Мэккі.

## Штурм Шанхаю.

Англійскія газэты наказуюць, што пасьля артылерыйскай падгатоўкі пачаўся генаральны штурм Шанхаю.

З нямецкіх крыніц даносяць, быццам маршалак Ву-Пэй-Фу маніцца, у выпадку перамогі, аднавіць у Кітаі цэнтралістычную манархію, пасадзіўшы на трон багдыханаў аднаго з прынцаў Манчжурскай дынастыі. Ён рашучы праціўнік чужаземнага ўплыву, выключаючы толькі Амэрыку.

---

***Ніколі не зьнішчажай сваей беларускай газэты! Прачытаушы, давай суседу, ці знаемаму, каб і ён пазнау прауду аб жыцьці свайго народу і даведауся, што робіцца на сьвеце!***

---

# АРУЖНЫЯ НАПАДЫ.

## Пагоня за лунінецкімі партызанамі.

Часьць банды ў ліку 15 асоб ужо перайшла за радавую граніцу; другая часьць, што ўкрылася ў Любяшоўскіх лясох, быццам акружана з усіх бакоў паліцыяй і войскам (—у ліку 110 паліцыянтаў і 3-х рот жаўнераў) у райёне Навасёлак, Любашова і Давішкоўцаў.

З усіх людзей, што былі арыштаваны дагэтуль, затрыманы 39; 14 з іх адданы пад даразны суд, бо іх учасьце ў нападзе быццам бяссумліўнае.

Некалькі партызанаў з гэтай часткі напалі на маёнтак Зарэева, забіўшы ўласьніка Склінскага.

## Атаман Кальненка ня схоплены.

Чуткі аб тым, быццам атаман лунінецкіх партызанаў арыштаваны паліцыяй, аказаліся, як падае „Dz. Wil.“, няпраўдзівымі.

## Бітвы каля Пушыцы.

У райёне Пушыцы былі запраўдныя бітвы паміж паліцыяй і часткай лунінецкіх партызанаў.

## Сыгналізацыя з радавай граніцы.

„Kur. Por.“ падае, што частка лунінецкіх партызанаў ня можа выйсьці з Грычынскіх балотаў на радавую граніцу, ня гледзячы на тое, што ля граніцы на тым баку (каля Макран — у тым мейсцы, дзе перайшло ўжо праз граніцу 15 партызанаў) яе чакаюць атрады радавай кавалерыі і сотня казакаў, якія ракетамі падаюць сыгналы партызанам.

## Арышт банды.

У сяле Сярэднім, каля Лунінца, патрулем захоплена банда з 8 асоб з вінтоўкамі і ручнымі гранатамі.

## Банда атамана Вярсоцкага.

Сьледчая паліцыя выкрыла, што рад аружных нападаў і рабункаў на тэрыторыі Віленшчыны зроблены бандай атамана Вярсоцкага.

## „Новы нячуваны напад“.

Пад такім загалоўкам „Kur. Por.“ падае вестку аб сьмелым нападзе 30 партызанаў на фальварак Бацаніца ў Астроўскім пав. Напасьнікі спалілі фальварак, забралі 21 каня фальварковых і 2 каней уланскіх.

Пасьля гэтага партызаны напалі на Цёсова, падпалілі тры вялікія двары, абрабавалі Сынонева і адыйшлі ў напрамку Гошчы.

Паліцыя і войска гоняцца за імі.

## Яшчэ банда...

У Крушыне, пад Баранавічамі, няведамыя людзі далі 5 стрэлаў у паліцэйскі пастарунак. Ахвяраў ня было. Думаюць, што гэта пачала працу новая банда. Сьледзтва йдзе.

## Напад на пастарунак.

„Kur. Por.“ піша аб новым нападзе бандытаў на паліцэйскі пастарунак у Кункове, пад Вельборнам, Берасьцейскага павету. Пасьля гарачай перастрэлкі бандытаў арыштавала паліцыя.

## Новыя прыгатаўленьні.

Усёведаючы „Kur. Por.“ падае вельмі цікавыя весткі аб рыхтаваньні новай, шырокага маштабу, „дывэрсыйнай акцыі“ на валынскай граніцы, дзе дагэтуль яшчэ выпадкі нападаў былі в. рэдкія. Паводле вестак газэты, там арганізаваны і гатовы ўжо распачаць акцыю 3 вялікія банды—Кінёўская, Пячыводзкая і Крэвінская. Пакуль-што гэтыя банды робяць дробныя напады на доўгай лініі граніцы, каб „тэрарызаваць насяленьне“ (?) і выклікаць заграніцай уражаньне, што ў Польшчы на „Крэсах“—заўсёды ідзе нацыянальная барацьба, а ў мясцовага насяленьня вытварыць пераконаньне аб вялікай сіле акцыі і бяссільлі польскае ўлады“...

Галоўнымі пунктамі арганізацыйных бандаў зьяўляюцца Заслаў і Житомір. Вясной 1925 г. мае разьвярнуцца шырокая акцыя ўздоўж усяе граніцы СССР з Румыніяй і Польшчай.

---

# ХРОНІКА.

**З жыцьця беларускіх партыяў.** З прычыны таго, што ўсе беларускія партыі прымушаны істнаваць у Зах. Беларусі падпольна, вельмі трудна атрымоўваць весткі аб іх. Гэтак, прыкладам, толькі з „Сав. Бел.“ мы даведываемся аб тым, што беларускія эсэры ў Горадзеншчыне, у сувязі з рэзалюцыяй эсэраўскага зьезду ў Менску 9 чэрвеня г. г., перайшлі ў рады камуністаў.

У пастанове горадзенскіх эсэраў, паміж іншым, гаворыцца:

„Горадзенская Акружная Канфэрэнцыя беларускіх с.-р. лічыць, што пастанова Менскай канфэрэнцыі ад 9 чэрвеня цалком адпавядае патрэбам барацьбы сучаснага мамэнту Заходняй Беларусі і, дзеля стварэньня адзінага пралетарскага фронту ў Заходняй Беларусі, аб'яўляе ўсе с.-р. арганізацыі ў Горадзенскай акрузе зьліквідаванымі, Акружны Камітэт распушчаным—з утварэньнем на яго месца Камітэту Ліквідацыйнага. Далейшую сваю рэвалюцыйную барацьбу сябры горадзенскай арганізацыі партыі беларускіх с.-р. будуць весьці, ўвайшоўшы ў склад Камуністычнае Партыі Заходняй Беларусі і шляхам аб'яднаньня з камуністычнымі арганізацыямі на мясцох“.

**Стары стыль.** У-ва ўсіх віленскіх цэрквах пастаноўлена адбываць багаслужэньні ў сьвяты па старому стылю.

**Нашы ўраджаі.** На скліканым у Вільні зьезьдзе землеўласьнікаў з усяе Віленшчыны прадстаўнікі паветаў падалі гэткія цыфры аб сёлетнім ўраджаі:

**У Віленска-Троцкім павеце:** жыта 30—32 пуды з дзесяціны, ячмень 70—75, авёс 15—16, а ў некаторых мясцох толькі 10—15, гарох 45—50; бульба 300—320, але заражаная, няма нават насеньня; лён урадзіўся дужа добра, ды яго мала сеялі; грэчкі мала.

**У Дунілавіцкім пав.:** жыта да 35 пудоў з дзесяціны, ячмень 45—50, авёс 25—30, гарох 45—50, бульба 300—400, дробная; ільну і грэчкі ня сеюць.

**У Дзісьненскім пав.:** жыта 20—25, ячмень 70, авёс 25—30, гарох 45—50, бульба 250—300, дробная; лён (сеюць пераважна сяляне) — семя да 30 пудоў, валакна 15—20.

**У Браслаўскім пав.:** жыта 30—32, ячмень 60—70, авёс каля 20, гароху мала сеялі, бульба дробная 300—320, грэчкі ня сеюць, лён да 20 пуд.

**У Сьвянцянскім пав.:** жыта 30—32, вельмі добры сорт; ячмень да 40 пуд., авёс 25—30, гарох 50—60, бульба благая; лён добры, мала сеялі, вынікі йшчэ невядомы, бо трывае суш.

**У Валожынскім пав.:** жыта 30—35, ячмень 50—60, авёс 30—35, гарох 50—60, бульба дробная, заражаная гнільлём,—300 пуд.

**У Ашмянскім пав.:** жыта 24—30, ячмень 40, авёс 30 (быў пабіты), гарох 50, бульба 300, дробная, урадзілі толькі некаторыя сарты, рэшта зусім прапала, у Крэўскай гміне і часьці Гальшанскае ня варта нават капаць:

**У Лідзкім пав.:** раўнуючы да нармальных ураджаяў, сёлетні ўраджай даў: жыта 68 процантаў, ячменю 80 проц., аўса 10 проц., а ў іншых ваколіцах ад 5 да 10, бульбы 50 проц.

У сувязі з гэткім неўраджаем зьезд, як піша віленскае „Słowo“, пастанавіў паслаць да вышэйшае ўлады адумысны мэморыял, бо ў Варшаве пануе „дзіўное перакананьне“, быццам у нас ураджаі „найлепшыя“!

**Ад „дэлегатуры“ да ваяводзтва.** Рада міністраў зацьвярдзіла праект зьменаў граніц і адміністрацыйнага ладу Віленшчыны. Замест „дэлегатуры“ ў Віленшчыне ўводзяцца ваяводзкія ўстановы, прычым да яе далучаецца Ракаўская гміна.

Ваяводзкія ўстановы Наваградчыны пераводзяцца ў Слонім.

Ад усіх гэтых чыста чыноўніцкіх „рэформаў“ насяленьню—ні горача, ні зімна,—толькі што на гэтыя пераезды ды перавозкі дарма марнуюць народныя грошы!

**Новая паштовая кантора.** У Бастунах, Лідзк. пав., адчынена паштовая кантора.

## Беларускія дэпутаты у прэм'ер-міністра Грабскага.

У мэтах належнае пастаноўкі беларускага школьніцва на нашых землях, беларускія дэпутаты мелі 2.X.24 г. ў Варшаве канфэрэнцыю з прэм'ер-міністрам Грабскім. У складзе беларускае дэлегацыі былі: дэпутат Сойму кс. Ад. Станкевіч (Старшыня Цэнтр. Белар. Школьн. Рады), дэпутат Сойму П. Мятла і сэнатар Ал. Уласаў.

Дэлегацыяй былі падняты і абгаварываліся гэткія пытаньні:

1) Праводжаньне ў жыцьцё закону аб беларускім школьніцтве.

2) Вызначэньне крэдытаў на арганізацыю і ўтрыманьне беларускіх школ.

3) Каб войты ў гмінах сцьвярджалі подпісы люднасьці на прыгаварах аб адчыненьні беларускае школы і ня бралі аплаты ад кожнага подпісу.

4) Каб былі спынены перашкоды да адбываньня сходаў у мэтах зарганізаваньня школы.

5) Каб на жаданьне бацькоў былі пераменены польскія школы на беларускія.

6) Каб беларускія вучыцялі, працуючыя ў польскіх школах, былі пераведзены на працу ў школы беларускія.

7) Каб выдадзены быў дазвол Цэнтральн. Белар. Шк. Радзе ў Вільні на адчыненьне курсаў для беларускіх вучыцялёў, а таксама аб прызначэньні субсідыі для курсаў.

Усё гэта прэм'ер-міністар Грабскі прызнаў слушным і што яно мусіць быць споўнена.

Зьмяшчаючы гэтую вестку, рэдакцыя ад сябе можа сказаць, што мы, беларусы, маем ад Польскага Ураду чародную „абяцанку-цацанку“. Галава польскіх міністраў прызнаў усё слушным і патрэбным для споўненьня **на словах, а на дзеле** мы бачым, што на днях зачынена польскімі ўладамі беларуская пачатковая школа ў вёсцы Яглічы, Войстамскай воласьці, Сьвянцянскага пав. і ў белар. пачатк. школу вёскі Кавалі, тэй-жа воласьці і павету, вызначаны 2 польскія вучыцялі з Галіцыі, якія ані слова не разумеюць пабеларуску і, ясна, пераробяць школу нашую на польскую.

**На словах**, як бачым, **адно, а на дзеле** — навыварат.

